# Рабочы Бабруйска

18-24 мая 2000 г. Наклад 299 ас. Паштовая адраса: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №17

ПАДЗЕІ

## "ВЯСНА-2000" ЗАВЯРШЫЛАСЯ



Пікет, які прайшоў у нядзелю 14 траўня, завяршыў у нашым горадзе "Вясну-2000", якая складалася з праведзеных 13 лютага "Акцыі любві", 25 сакавіка "Дня Волі", 26 сака-віка "Хвіліны смутку". Роўна пяць год таму ў гэты ж дзень на Беларусі прайшоў рэферэндум, які ліквідаваў шматвекавую нацыянальную сімволіку – бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", даў пачатак планамернаму вынішчэнню беларускай мовы, паставіў пад пагрозу само існаванне беларускай дзяржаўнасці.

"Не – русіфікацыі Бабруйска!", "Помнікі архітэктуры – гонар Бабруйска, а не месца для звалкі", "Бабруйск – беларускі горад!"... – плакаты з такімі тэкстамі разгарнулі некалькі дзесяткаў людзей, якія сабраліся ў 12 гадзін на плошчы Перамогі. Ахоўнікаў парадку на мерапрыемстве не было, хаця не ведаць аб маючай адбыцца акцыі гарадскія ўлады не маглі, – яшчэ 28 красавіка добра вядомымі ў нашым горадзе людзьмі, Алесем Чыгірам і Вячаславам Свізуновым, была пададзена заяўка ў гарвыканкам на правядзенне пікету. Дарэчы, дазвола заявіцелі не атрымалі, як і забароны, – у адказе паведамлялася, што месцам, адведзеным для "сходаў-мітынгаў", з'яўляецца стадыён "Фандок", які, мы ведаем, знаходзіцца ў бязлюдным і аддаленым месцы горада.

На працягу "пікетнай" гадзіны праз плошчу Перамогі прайшло каля двух тысяч чалавек. Некаторыя прахожыя, спыняючыся ля пікетоўцаў, спрабавалі разважаць аб тым, што іх "хвалюе не мова, а праблема як набыць каўбасу". Іншыя неслі надакучыўшую ўжо бязглуздзіцу наконт "долараў з замежжа". На прапанову ж далучыцца і таксама атрымаць "зялёных", чамусьці не адгукнуліся. Але гэта толькі выключэнні. У асноўным жа людзі, уважліва прачытаўшы тэксты, у роздуме ішлі далей...

**Віктар КАЧАН.**

ГЛАС НАРОДА

## ТАРИФ НА ВЫЖИВАНИЕ

Труд на благо Родины – это, конечно, звучит красиво. Но ни для кого не секрет, что рабочий человек трудится прежде всего ради заработка.

На сей раз, при помощи "спонтанного" телефонного опроса мы решили выяснить, ***насколько бобруйчане*** (разного пола, возраста, рода деятельности) ***удовлетворены своими доходами; и какой личный месячный доход хотели бы иметь в идеале.***

Напомним нашу методику: посредством набора случайной комбинации цифр на телефонном диске мы "выходим" на респондента и, представившись, задаем вопрос. Считаем задачу выполненной, когда число пожелавших ответить достигнет тридцати.

Итак, наиболее интересные ответы предлагаем вашему вниманию.

**Виктор, 42 года:**

*— Работаю на "Шинном". Зарплата – около шестидесяти этих самых миллионов, тысяч или как их там..., короче, денег. В пересчете на твердую валюту в середине 90-х получал раза в три больше. С тех пор хуже работать не стал, скорее – наоборот: считаю, что хорошо знаю свою профессию. А доходы упали, поэтому довольным себя не чувствую.*

*Чтобы зарплата не казалась подачкой думаю, долларов триста в месяц было бы то, что надо.*

**Антонина Петровна:**

*— Я пенсионерка, и пенсией своей довольна. Даже детям помогать получается, потому что и сыну, и дочке зарплату постоянно задерживают.*

*Увеличат пенсию – хорошо, нет – и так проживу. Больше за детей волнуюсь...*

**Дмитрий Сергеевич, 53 года:**

*— Знаю вашу газету, читал. Но фамилию свою не скажу – мало ли чего... Зарплата вся идет в желудок и выходит через... На одежду и другие "несъедобные" покупки почти ничего не остается. Собираюсь идти в отпуск, но отпускных, сказали, в ближайшие месяцдва не жди. Вот и думайте, могу ли я быть доволен?*

*Сколько хотел бы зарабатывать? Да раз в пять-десять больше!*

**Ирина:**

*— Я работаю совсем недавно. Нет, не у станка – с бумагами. Платят очень мало: чуть больше двадцати тысяч. Купить что-нибудь красивое из одежды, это значит сесть на вынужденную диету. Живу в надежде на более удачное трудоустройство.*

*Хочу зарабатывать столько, чтобы не думать о деньгах каждую минуту.*

**Валерий Иванович, лет "под сорок":**

*— Наверное, даже капиталист-миллионер не всегда доволен своими доходами. Что уж говорить о нас, убогих? Я честно работал на государство, оно тоже честно вместо зарплаты показывало мне кукиш. В конце концов надоело и я уволился. Теперь официально – безработный. Кручусь, как белка в колесе, но зарабатываю по сравнению с тем, что было, более или менее прилично.*

*В идеале хотел бы иметь "штуку баксов" в месяц. Но боюсь, что загнусь от усталости.*

**Лидия Дмитриевна:**

*— В семье основной добытчик – муж, он на двух работах вкалывает. А мой оклад – смех сквозь слёзы. Да еще и задерживают с расчетом. Вместе кое-как сводим концы с концами.*

*Хотелось бы иметь такой доход, чтобы можно было отложить и на "черный день". Но иногда кажется, что каждый второй день – "черный".*

Подводя символическую черту, следует заметить, что людей, полностью довольных своими доходами мы так и "не вызвонили". Кто-то недоедает, кто-то сводит концы с концами, кто-то "пашет на себя", балансируя на грани закона. Все эти натужные пополнзновения можно окрестить скорее попытками выживания, нежели процессом зарабатывания средств, достаточных для нормальной жизни.

На всякий случай уточним, что данный опрос – не социологический и на репрезентативность не претендует.

**Опрашивал народ А. ЛИТВИНОВ.**

***Напоминаем, что свое мнение по любым вопросам, проблемам, событиям вы можете высказать, позвонив нам по телефону 55-81-78 каждый четверг с 15:00 до 18:00.***




ПРОИСШЕСТВИЯ

## Последний удар зимы

Продолжающиеся в республике заморозки уже нанесли непоправимый урон сельскому хозяйству. В Могилевской области от них пострадало около 6 тысяч гектаров посевных площадей. По мнению специалистов, достичь запланированных урожайных показателей в этом году аграрники уже не смогут. На территории области особенно пострадали Глусский, Осиповичский и Бобруйский районы. В Глусском районе, например, температура воздуха ночью понижалась до минус одиннадцати градусов. Причем заморозки нанесли здесь ущерб не только яровым, но и озимым зерновым посевам, что случается крайне редко.

Значительно пострадали также фруктовые сады и кормовые травы. По предварительным подсчетам, общеобластной ущерб составил два миллиарда рублей.

## Затаившаяся смерть

56 лет пролежал в самом центре Бобруйска 38-милиметровый снаряд. Обнаружил его накануне Дня Победы бдительный дворник, наводящий порядок в прилегающем к центральному бобруйскому кинотеатру сквере. Смекнув, что дело в прямом и переносном смысле пахнет порохом, дворник не стал тревожить свою находку, а сообщил о ней в милицию. Вызванные затем саперы подтвердили его подозрения: найденный предмет – снаряд времен Великой Отечественной. Опасная находка со всеми мерами предосторожности была вывезена на загородный полигон и уничтожена.

КРИМИНАЛ

## Внимание: карманники

"Работать" бобруйские карманники предпочитают в троллейбусах первого маршрута.

На «охоту» они выходят в «час пик». Жертв себе выбирают, как правило, среди женщин: те более беспечны, рассеяны и «платежеспособны», поскольку обычно в их руках – семейный бюджет. А в случае «провала» карманника – не смогут «организовать» для него серьезных физических последствий. Но «проваливаются» карманные воры крайне редко: рука натренирована, технология отработана, продуманы все варианты развития событий. Причем среди карманников зачастую можно встретить подростков 12-14 лет, – с честными лицами, хорошо одетых, пахнущих дорогим парфюмом, – которых уж точно вряд ли кто-нибудь в чем-нибудь заподозрит.

Подсаживаясь в переполненный троллейбус, вор аккуратно вынимает кошелек, вычищает его и, если есть такая возможность, кладет обратно.

Это позволяет ему выйти сухим из воды даже в том случае, если кража обнаруживается до его выхода из троллейбуса или, скажем, его "пасли" оперативники.

С приходом весны карманники в Бобруйске заметно активизировались: одна кража следует за другой. А накануне Дня Победы они «отличились» особо, похитив у пенсионерки, жительницы Гомельской области, не знакомой с местными реалиями, 2208 /два тысячи двести восемь/ долларов США и 160 тысяч белорусских рублей. Между тем существует ряд несложных правил, соблюдая которые, можно избежать кражи. Во-первых, не следует класть всю сумму в один карман, а лучше распределить ее по разным, причем внутренним карманам. Во-вторых, не нужно доверять свои деньги пакетам и сумкам, разрезать которые для карманника – проще простого. В третьих, если уж положили деньги в сумку – держите ее в общественном транспорте впереди, прижимая к себе. В-четвертых, не следует "светить" деньгами в общественных местах – вас могут "повести". И, наконец, просто будьте бдительны.

**Анатолий САНОТЕНКО.**

КАНТАКТЫ

## Жанчына — не тавар

10 мая разам з групай польскіх журналістаў Бабруйск наведала кансультант "Праграмы супраць гандлю жанчынамі ў Сярэдняй Еўропе "La Strada" Лена Амбрашэўска.

Кантынгент, з якім працуе "La Strada", – жанчыны, якія едуць працаваць за мяжу і робяцца там ахвярамі сутэнёраў. У польскім аддзяленні гэтай арганізацыі ўсяго пяцёра дзяўчат, але ў кожным буйным горадзе ёсць яшчэ валанцёры.

Як расказала Лена, ёй давялося дапамагаць некальком жанчынам з Бабруйска. На жаль, прасачыць лёс беларускіх дзяўчат пасля вяртання на радзіму немагчыма. І часам бывае, што сутэнёры не пакідаюць іх ў спакоі. Відаць, наспела неабходнасць стварэння арганізацыі па тыпу "La Strada" у нашым горадзе.

Прадстаўніцы Грамадзянскага Форуму, Жаночай Лігі і Арганізацыі Працоўных жанчын Бабруйска выказалі зацікаўленасць ў супрацоўніцтве. Польскія ж сяброўкі параілі выбраць прыярытэты ў працы і пачаць з вучобы валанцёраў.

**Людміла РОДЗІКАВА.**



**55-81-78**

***Каждый четверг с 15:00 до 18:00 вас слушает "Рабочы Бабруйска".***

# Пытанні і адказы па гісторыі Бабруйска

*Што нам вядома пра Бабруйск XV – XVI стагоддзяў?*

На працягу XV стагоддзя Бабруйск, як і іншыя гарады нашага края, якія раней былі крэпасцямі, замкамі, гаспадарчымі дварамі, набывае рысы гандлёва-рамеснага цэнтра. Вакол Бабруйскага вялікакняжыцкага замка, закладзенага ў XIV стагоддзі, пачаў расці горад, які мы сёння называем Бабруйскам.

Вялікую ролю ў развіцці Бабруйска эпохі сярэднявечча адыгрывалі адыгрывалі рамяство і гандль. Праз горад па Бярэзіне праходзіў буйны гандлёвы шлях, які звязваў паміж сабой не толькі гарады Беларусі, але і розныя краіны тагачаснага свету. Дзякуючы гэтаму, бабруйскія рамеснікі: бондары, рымары, седляры, мечнікі, залатых спраў майстры, вінакуры, пекары былі вядомы далёка за межамі нашага горада. Купцы, што прыязджалі ў Бабруйск гандляваць, плацілі мытны падатак.

Асаблівa шпарка наш горад развіваўся ў другой палове XVI стагоддзя. У гэты час Бабруйск – ужо не толькі ўмацаваны вайсковы пункт, але і места гандлю для вельмі вялікай акругі. Тут вёўся адпускны гандль дамашнімі жывёламі, воскам, мёдам, што вывозілася ў іншыя мясціны.

Нягледзячы на тое, што ва Уставе Бабруйскай воласці 1584 года наш горад называюць дробным, ён меў даволі значны для таго часу памеры. Бабруйск займаў плошчу прыблізна ў 68 га. Горад меў 5 брам: Прадольную, Кісялёўскую, Свіслацкую, Прудовую, Слуцкую.

Наш горад другой паловы XVI стагоддзя складаўся з 16 вуліц і завулкаў. Усяго ў горадзе налічвалася больш за чатыры сотні будынкаў. У гэты ж час быў пабудаваны рынак, на якім размясціліся 75 крам. Усё гэта сведчыць аб бурным сацыяльна-эканамічным развіцці Бабруйска XV - XVI стагоддзя.

*Калі быў пабудаваны і як выглядаў Бабруйскі замак?*

На працягу чатырох стагоддзяў, ад 14 да 18, у Бабруйску на правым узвышаным беразе ракі Бярэзіны, непадалек ад сутоку з ракой Бабруйкай, існаваў замак. За час свайго існавання Бабруйскі замак перажыў шмат аблог і разбурэнняў, але кожны раз пасля варожай навалы ён з любоўю аднаўляўся жыхарамі горада.

Замак займаў вяршыню пагорка берагавога плато памерам 53 х 66 метраў, якому пазней надалі чатырохвугольную форму. З боку Бярэзіны замак быў ахаваны высокім і стромкім схілам, з астатніх бакоў умацаваны абарончым ровам, шырынёй да 15 метраў. Сядзіба займала плошчу ў 0,7 га. Сам замак меў два паверхі і вялікую колькасць пакояў, у большасці з якіх былі печы, выведзеныя на дах. З першага на другі паверх вяла двухбаковая лесвіца. Для захавання зброі ў замку былі адмысловыя склепы. На дзвярах - моцныя засовы, на вокнах - масіўныя стаўні. Пакоі мелі адпаведную мэблю : лавы, каля сцен вялікія скрыні. У замкавым будынку знадзілася вязніца, а на ўскрайку сядзібы – тры умацаваных склепа.

Паводле Уставы 1626 года, замак быў абкружаны зямельным валам, на якім стаялі абарончыя драўляныя вежы і сцены. Для таго часу бабруйскі замак лічыўся добра ўмацаваным. У ліку агнястрэльнай зброі "Устава" называе 2 жалезныя гарматы, 3 серпанціны, 43 гакаўніцы, 11 ручніц губчастых, запасы жалезных і каменных ядраў, алавянныя кулі да гакаўніц, порах, салетру, серу, олава.

За час свайго існавання замак часта змяняў знешні і ўнутраны выгляд. На працягу XVIII стагоддзя замак паступова прыходзіць ў заняпад і ў хуткім часе ўвогуле перастае існаваць. На яго месцы ў хуткім часе была пабудавана крэпасць.

**А. ЧЫГІР.**

**План Бабруйскага замка:** *замак (1), каралеўскі двор (2), брама Падольная (3), брама Свіслацкая (4), брама Кісялёўская (5), брама Прудовая (6).*




АДУКАЦЫЯ

# МАЯ БЕЛАРУСЬ: УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

Пад такой агульнай назвай у нашым горадзе распачаўся семінар для моладзі. Ладзіць яго Таварыства Філаматаў і Грамадзянскі Форум (г.Бабруйск). Усяго запланавана правесці 13 лекцый. Жадаючыя змогуць атрымаць веды па гісторыі рэгіёну, эканоміцы, палітыцы, праву, прыкладной псіхалогіі... Першы занятак, а яны будуць праходзіць выключна ў нядзелі, адбыўся 7 траўня. Юныя слухачы, сярод якіх былі прадстаўнікі Маладога Фронту, Грамадзянскага Форуму, Маладых сацыял-дэмакратаў, з цікавасцю праслухалі лекцыю "Уводзіны ў гісторыю Бабруйшчыны", якую прачытаў гісторык Алесь Чыгір. Прага маладых людзей да ведаў, не сапсаваных афіцыйнай цэнзурай, выклікае павагу. Мяркуючы з досведу мінулага году, калі ў Бабруйску пасля заканчэння цыклу лекцый Народнага універсытэту адбыўся сапраўдны палітычны ўздым, рызыкну зрабіць выснову: набыўшы ўжо больш маладое аблічча, гэтая актыўнасць будзе расці і надалей.



**Віктар КАЧАН.**

ПАДЗЕІ

# Дзень сям`і

І зноў свята. У чацвер 11 мая ў ПК "Шыннік" справаздачным канцэртам Цэнтра культурна-выхаваўчай працы Першамайскага раёна (кіраўнік Наталля Жыжалева) пачалася акцыя "Цёплы дом", прысвечаная Дню сям'і. На святочнае прадстаўленне былі запрошаны апякунскія і мнагадзетныя сем'і.

Гэта свята адзначаецца ў нашай краіне з 1996 года. У 2000 годзе дзень 15 мая абвешчаны Міжнародным Днём Сям`і.

**Людміла РОДЗІКАВА.**

СПОРТ

# УНІЗ ПА ТАБЛІЦЫ

7 мая ў чацьвёртым туры чэмпіянату Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе лідэр – бабруйская "Белшына" гуляла ў гасцях з мазырскай "Славіяй". Нягледзячы на тое, што шыннікі здолелі забіць два мячы, агульны вынік – 3:2 атрымаўся на жаль не на нашу карысць. Дубль на свой рахунак запісаў свабодны абаронца Эдуард Балтрушэвіч.

З ФК "Гомель" бабруйчане сустракаліся 11 мая, будучы ўжо на пятым радку. На гульню з паўднёвым суседам у стартавым складзе выйшлі: Жэмчугаў, Свердлаў, Балтрушэвіч, Клімовіч, Балашоў, Кашкар, Шамшорык, Хрыпач, Каролік, Ланько, Ліс. Матч пачаўся ў невысокім тэмпе. Дзмітрый Балашоў, які выконваў функцыю нападаючага, быў надзейна прыкрыты былым "белшынаўцам" Кавалевічам. Ды ў адной з рэдкіх атак у сярэдзіне першага тайма, застаўшыся сам на сам з варатаром гасцей Селькіным, Дзмітрый сутыкнуўся з ім і, атрымаўшы пашкоджанне, вымушаны быў пакінуць поле. Замест яго ўпершыню ў гэтым сезоне з`явіўся Багірян, аднак адчуваў сябе, хутчэй, як рыба, выкінутая на бераг. Паўабарона гаспадароў літаральна "плыла з вадою". Шамшорык, Кашкар, з асаблівa Ліс з Ланько, узялі за звычай прайграваць сапернікам усе адзінаборствы. Іншая справа — гамельчане, якія ўпэўнена гнулі сваю лінію. Гарняўскі, Дземенкавец, Разумаў поўнасцю захапілі плацдарм у сярэдзіне поля. Гэта пачало прыносіць плён у пачатку другога тайма. Спачатку, пасля навеса Чарапнёва, ударам галавой лік адкрыў Алейшанка. А яшчэ праз некалькі хвілін ён жа адным дотыкам замкнуў прастрэл Гормаша. Гол-прыгажун застаўся апошнім ў гэтым матчы. Больш госці напружвацца не жадалі, дагульваючы паядынак. А бабруйчане канчаткова збіліся на навал. Няўпэўненасць у руках ігракоў, часам няведанне, у які бок бегчы, было бачна няўзброеным вокам. "Белшына" зноў згубіла ачкі, а разам з імі — яшчэ і адчувальную колькасць заўзятараў футболу, шмат з якіх ў гэты дзень далі сабе зарок "больш ў гэтым сезоне на стадыён не з`яўляцца". Можна, канешне, паспрачацца, ці сапраўдныя гэта балельшчыкі. Але разам з гэтай высновай лагічна выглядае і пытанне: ці сапраўднымі прафесіяналамі з'яўляюцца нашы футбалісты?..

Пасля другой запар паразы "Белшына" з 7 ачкамі адкацілася на 7 месца. Напярэдзе знаходзіцца сталічнае "Дынама" і мазырская "Славія" – па 13 ачкоў, ФК "Гомель" – 12, "Шахцёр" (Салігорск) – 10, а 5 і 6 радкі дзеляць "Нёман-Белкард" (Гродна) і "Нафтан-Дзевон" (Наваполацк) – па 8 ачкоў.

**Віктар КАЧАН.**



ЭХ, ЖЫЦЦЁ...

# Надбаўка-падачка

Нязначнае павелічэнне мінімальнай заработнай платы звязана з абмежаванымі магчымасцямі дзяржаўнага бюджэту. Пра гэта паведаміла крыніца ў беларускім урадзе.

Як вядома, з 1 траўня мінімальная заработная плата павялічылася з 2.200 да 2.600 рублёў, ці на 18,2 працэнта, а тарыфная стаўка першага разраду — з 4.500 да 5.200 рублёў, ці на 15,6 працэнта. Між тым рост спажывецкіх цэн з пачатку года (папярэдняе павышэнне мінімальнай заробнай платы адбылося 1 студзеня) склаў прыкладна 40 працэнтаў. Раней рост мінімальнай зарплаты звычайна кампенсаваў рост цэн.

Відавочна, што аднялі больш, чым дабавілі.

СВЯТКУЕМ...

# У нашым калгасе Дзень Перамогі

9 мая на Кургане славы ў вёсцы Сычкава адбылося раённае мерапрыемства, прысвечанае Дню Перамогі. Гэтую імпрэзу можна ахарактарызаваць словазлучэннем «колхозный праздник». Так, менавіта «праздник», а не свята. Бо свята – ад слова святы. А святога там не было і блізка. Ці то дзень правядзення, пад час Радаўніцы, выбралі няўдала, ці то фантазіі бракавала.

"Тры мужыкі выступілі і то не так, як трэба, два разы стрэльнулі, два разы ў трубу дзьмухнулі і аб'явілі аб заканчэнні мітынгу. Нашто людзей з усяго раёна везлі?" – дзяліся ўражаннямі адзін з ветэранаў. Сапраўды так яно і было. Ветэранаў віншавалі са святам заштампаванаю трасянкай ці з дапамогай расейскіх вершыкаў, загадзя перапісаных у папку.

Да дзвюх гандлёвых кропак старому чалавеку не падступіцца. Канцэрт, наладжаны пераважна дзіцячай самадзейнасцю, мала каго цікавіў. Але нягледзячы на складанасці, жыхары нашага раёна як заўжды "дастойна ўстрэцілі празнік". Імпрэза завяршылася даволі традыцыйна: усе ахвочыя ўдосталь напіліся гарэлкі.

**Таццяна БАРЫСІК.**

*(Працяг тэмы — на старонцы В)*

МОЙ СУСВЕТ

*В Хорватии запрещены аборты, но почти нет матерей-одиночек и нельзя оставить ребенка в роддоме.*

# ХОРВАТИЯ — СТРАНА ТУРИСТОВ

**На рубеже столетий даже нас, коренных жителей села, не удивляет встреча с иностранцем на родной земле. Мы теперь знакомы с дальними странами не понаслышке, не по книжкам. Тем не менее, та, о которой мы хотим рассказать сегодня, наверное, все-таки мало известна жителям Беларуси. Эта страна называется Хорватия, еще несколько лет назад она не имела своей государственности, считалась 1/6 частью социалистической Югославии.**

**О Хорватии нам рассказали Марио и Лариса Ягнич, которые сейчас гостят у родителей в д. Горбацевичи. Дело в том, что Марио — хорват, а его жена Лариса — беларуска. Такая вот интернациональная семья. Сегодня мы представляем вниманию читателей их рассказ о себе и о своей стране.**



Марио Ягнич познакомился со студенткой Минского института культуры Ларисой Соловьянчик, когда она приехала на отдых в хорватский город Сплит несколько лет назад. Познакомились — и больше не расставались. Теперь живут на родине Марио вместе со своей дочуркой — четырехлетней Патрисией. Марио работает официантом в большом приморском отеле. Сейчас "межсезонье", туристов мало, поэтому большинство работников отеля имеют возможность (и средства тоже) парутройку месяцев отдохнуть.

Хорватия — страна совсем небольшая, населения всего около 5 млн. человек, да и из них почти половина сейчас находится в эмиграции. Самый большой город — Загреб, столица, здесь 1 млн. жителей. Хорватия расположена вдоль побережья Средиземного моря. Потому работа большинства коренных жителей так или иначе связана с туристами, а их здесь в летний сезон собирается великое множество со всех континентов — привлекают великолепные пляжи и, наверное, цены — все ж пониже, чем, скажем, на Канарах.

Родина Марио Ягнича — античный город Сплит, который уже отметил свое 1700-летие, и многое здесь напоминает о далеком прошлом.

— Из-за войны 1991-96 г.г. число туристов значительно уменьшилось, — рассказывает Марио. — Но теперь дело начинает налаживаться. А в чем были причины войны? Сами понимаете, я смотрю на это с точки зрения хорвата. Одна из причин — многовековой национальный конфликт. И в социалистической Югославии отношение к нам было предвзятым, не на равных со словаками. Например, хорват, который выбирал своей профессией военную службу или полицию, почти не имел шансов стать офицером. Так же обстояли дела и на гражданской работе: и платили нам меньше, и продвинуться по службе не давали. Когда произошел развал Югославии — это было примерно как и у вас, в Советском Союзе, мы, хорваты, решили: море — наше, и мы имеем право заниматься своим бизнесом, не отдавая большую часть доходов в казну другого, в общем-то, государства — Югославии. Мы можем и должны жить самостоятельно. Вообще-то я далек от политики, но все же скажу: основные причины того, что сейчас мы живем беднее, чем раньше, — это социалистическое строительство и война.

Об уровне жизни нынешних хорватов можно судить по таким цифрам: средняя зарплата — около 300 долларов в месяц, на эти деньги можно купить телевизор или, например, велосипед, и еще кое-что останется "на жизнь". Но цены при этом таковы: литр молока стоит примерно 1 доллар, булка хлеба — около 400 "беларусских" рублей, промышленные товары — примерно как и у нас, а китайский и турецкий "ширпотреб" — даже дороже, чем на наших рынках.

И промышленные, и сельскохозяйственные предприятия в основном находятся в частных руках. Так же, в частных руках — магазины, отели, учреждения культуры и другие организации. Видимо, поэтому среди продавцов и чиновников не встречаются грубияны, которые так удивляли Марио в Беларуси.

— Не мог этого понять, — говорит он. — Просишь что-нибудь на прилавке показать, а продавец ведет себя так, будто ты перед ним в чем-то виноват. И еще — неприятно, что в транспорте очень тесно. У нас цены на транспорт высокие, но таких проблем не бывает.

В Беларуси мне мало что не понравилось, больше было приятных "удивлений": метро, троллейбусы хотя бы. У нас такого транспорта нет. Особенно люди понравились — в основном очень открытые, доброжелательные, как и у нас в Хорватии. Мои родители сейчас живут в Германии, и мы тоже могли бы к ним переехать. Но не хотим. Там, конечно, намного выше уровень жизни, но отношения между людьми гораздо более холодные, отчужденные, даже у родственников. В Беларуси и Хорватии люди как-то добрее, человечнее. И еще мне у вас очень понравилось шампанское...

Последнее — это, пожалуй, знатный комплимент беларусским виноделам. Особенно если учитывать, что виноградники есть почти в каждом хорватском дворе, а не иметь в доме самодельного вина считается почти неприличным. Но при этом пьянство почему-то не является общенациональной проблемой. Здесь не пьют ничего сорокаградусного, только легкие вина. И вытрезвителей тоже нет — без надобности. Зато больше распространены наркотики, особенно среди молодежи. Наверное, одно другого не лучше...

Хорватию нельзя назвать такой уж идиллической страной из пляжей и виноградников. Здесь тоже много безработных — в основном молодежь и люди предпенсионного возраста. На пособие по безработице тоже прожить практически невозможно, да оно выпускникам школы, еще не работавшим, и не выплачивается. Те, кто теряет работу, в основном живут на свои сбережения. Хотя простому рабочему зарплата и позволяет жить, не ощущая нужды, отложить чтолибо "на черный день" не так просто. Но "несунов" на предприятиях все равно почему-то не бывает.



В общем, многое почти как у нас. За одну зарплату не получится купить автомашину, да и бензин дорог. Зато не бывает таких ситуаций, чтоб полицейский попросил частника "отлить бензинчика", или попытался к чему-либо придраться, чтобы "сшибить пятерку". Нарушил водитель какоето правило — его оштрафуют. И на этом все.

Имеется в Хорватии мафия и наркомафия тоже. Но нет такого понятия, как "рэкет". Любой человек может открыть любую частную фирму по производству или продаже чего угодно, и никакие "конкретные пацаны" не приедут его навестить.

Медицина здесь, в отличии от нашей, платная и очень дорогая. Правда, существует медицинская страховка, но по ней лечат далеко не все заболевания. В Хорватии запрещены аборты, но почти нет матерей-одиночек и нельзя оставить ребенка в роддоме. При всем при этом детские дома, как и дома престарелых — большая редкость, избавляться от своих родственников не принято.

Значительно ниже преступность, а слова "маньяк" или "серийный убийца", пожалуй, считаются экзотическими. Кровавые убийства и "разборки" — большая редкость. Уклад жизни более семейный и даже патриархальный, чем у нас. Возможно, причиной тому — и католическое вероисповедание (хорваты — люди, верующие всерьез), и более высокий уровень жизни.

Марио и Лариса Ягничи уверены, что большинство негативных сторон жизни в Беларуси — явление временное, кризис переходной эпохи. Вероятно, став богаче материально, мы станем и добрее друг к другу. И не будут грубить продавцы, разбойничать гаишники, закроются за ненадобностью вытрезвители, интернаты для сирот и дома престарелых.

У нас есть все основания жить "не хуже других". Пример тому — маленькая Хорватия, страна туристов.

**Е. ЧЕКУЛАЕВА.**

---

СВЯТКУЕМ...

# Калі ўсё атрымліваецца інакш

Вельмі сімвалічна, што менавіта ў гэтым апошнім годзе XX стагоддзя супалі два свята, якія маюць для нашага народа найвялікшы сэнс. Дзень Перамогі і Радаўніца. Памяць, смутак і надзея на будучыню павінны былі стаць асноўным лейтматывам дня 9 мая 2000 года. Але на жаль, ўсё атрымалася інакш.



*Дзеці святкуюць з радасцю...*

Людзі, якія вызвалілі наш край ад карычневай чумы, – гэта святыя людзі. Яны, тады яшчэ маладыя, былі пераможцамі, вызваліцелямі, абаронцамі. Іх сустракала з кветкамі ўдзячная Еўропа, ім выказваў падзяку весь цывілізаваны свет. У іх гонар узводзілі помнікі. Здавалася, так будзе заўсёды. Але на жаль, усё атрымалася інакш.

Услед за тымі, хто нёс народам свабоду, пайшлі тыя, хто пад час другой сусветнай вайны адсіжваліся за Уралам, альбо даві́ся ікрой у блакадным Ленінградзе. Гэта яны — крывавыя сталінскія хлопчыкі — ўзводзілі Берлінскі мур, душылі свабоду, тым самым зневажаючы ўсіх тых, хто коштам сваёй крыві выратаваў свет. Гэта яны, сытыя і халёныя, ў хромавых ботах – акупанты ды захопнікі. Але на жаль, ўсё атрымалася інакш.

Кожны трэці беларус загінуў пад час апошняй вайны. Не ведаю, як для іншых народаў, але для нашага народа Дзень Перамогі не можа з'яўляцца "праздником со слезами на глазах". Для нас, беларусаў, Дзень Перамогі – гэта, па-першае, дзень памяці аб тых, хто заплаціў сваім жыццём за наша права жыць. Так павінна быць. Але на жаль ўсё атрымалася інакш.

Ўсё атрымалася, як у жудасным сне. 9 мая на Плошчы Перамогі горада, які ў часы фашысцкай акупацыі страціў палову насельніцтва, гучалі песенькі фрывольнага зместу, ды лілася ракой гарэлка. З бласлаўлення бабруйскіх улад ля помніка загінуўшым воінам-вызваліцелям адбывалася п'яная оргія. Прабачце, але нават і ў цынізму павінны быць межы.

Памяць можна страціць, памяць можна сказіць, але гэта ўжо не памяць. Памяць – гэта тое, што робіць нас народам. Калі няма памяці, то ўсё атрымліваецца інакш...



*...а дарослыя – з «градусамі».*

**Алесь ЧЫГІР.**



рабочы Бабруйска

З гэтага моманту вы маеце магчымасць надрукаваць у нашай газеце бясплатную аб`яву!

С ПРИВЕТОМ

# КАНАТЧИКОВА ДАЧА НА БОБРУЙЩИНЕ

SOS ! SOS ! SOS ! Обращаемся к мировой общественности! Мы, инвалиды умственного труда, по вине главврача П.П. Прокоповича лишены единственной отрады и радости в жизни, которую этот врач-вредитель нам вначале сам же дал, а потом сам же коварно отобрал. Речь идет о нашей всенародно любимой передаче Беларусского телевидения «Панорама».

Дело было так: 1 апреля этот убийца в белом халате сказал: «В честь праздника делаю вам подарок: разрешаю смотреть по телевизору всё, что захотите. Но только по БТ и только в 9 часов вечера». И захохотал при этом, подражая одному нашему товарищу из буйного отделения. Больные на врачей не обижаются. Поэтому в 21.00 мы все дружно сели у телевизора. А Прокопович ещё сказал: «Если будете вести себя тихо, я иногда буду включать изображение и даже звук». Но мы опять не обиделись. Зато увидели нашего Президента живым и невредимым на экране в каких-то опасных Аральских Эмиратах. И даже слышали, как он сказал: «Здесь люди живут очень хорошо. Это потому, что у них 30 лет правит один правитель, а все люди работают по 8 часов 5 дней в неделю. Если у нас так будет, то и мы заживём хорошо». Потом Александр Рыгорович стал рассказывать с доброй улыбкой, что ничего страшного 25 марта в Минске не было, просто неопытные милиционеры слегка погорячились. Но мы даже не поняли о чём идет речь, потому что негодяй Прокопович сказал, что нам это вредно, и от телевизора прогнал. Мы потом не спали всю ночь и обсуждали в палате: как правильно говорил Президент! Если он теперь тоже будет править нами 30 лет, у нас тоже всё будет, и скоро выдадут нам новые халаты и ночные горшки. Вот бы его к нам главврачом.



2 апреля мы снова смотрели «Панараму». Правда, Президента почему-то не показывали, но зато рассказывали, что сейчас главный враг беларусского народа – какой-то Интернет. Это он сидит в телевизорах, и всех сводит с ума и заставляет не верить правительству. Мы между собой подумали, что это чистая правда! Вот с Митей Зимовским первый припадок тоже случился в тот день, когда он впервые увидел телевизор. И с тех пор он здесь, в интернате. А последние 10 лет с него даже смирительной рубашки почти не снимают.

И 3 апреля телевизор мы тоже опять смотрели. Узнали, что наша страна получает гуманитарную помощь от добрых людей, только до народа эта помощь не доходит, потому что на ней жирует какая-то оппозиция. Но зато теперь Президент сам проследит, чтоб эта оппозиция не перехватила ни одной шмотки и ни одного куска кирпича, а всё пойдёт бедным людям. И правда, назавтра медсестра сказала, что в интернат привезли импортные смирительные рубашки из Бурятии. Всю правду говорил!

А 4 апреля в «Панараме» рассказали, что Президент приехал в Подожикастан и заключил какие-то договоры с ихним подождикастанским президентом. А главный договор был про то, что теперь мы должны включиться в борьбу с международным терроризмом, который страшно поднял голову в разных странах. Это сообщение всех нас сильно взволновало, и мы тоже решили идти рубить террористическую голову. Но мы сильно расшумелись, пока обсуждали, и врач-вредитель Прокопович это услышал. Вызвал санитаров, и всех нас зафиксировали и упаковали в новые бурятские рубашки до утра.

С тех пор этот убийца с красным крестом больше не даёт нам смотреть нашу горячо любимую «Панараму». Мы ему пригрозили, что если так, мы напишем жалобы куда надо. Тогда он ответил, что если мы будем хорошо себя вести, он разрешит нам смотреть «Маски -шоу», но Беларусское телевидение – ни за что!

Мировая общественность! Заступись за нас, если сможешь! Мы не хотим «Маски-шоу»! Кроме «Панарамы», нам никаких клоунов не надо! SOS ! SOS ! SOS ! Помогите! Мы бедные инвалиды, лишены единственной отрады сердца!

**5 апреля сего года.**
**Жители дома инвалидов умственного труда.**
**Всего 32 подписи.**

**В Министерство здравоохранения РБ**
**Копия: в Международный Красный Крест**
**Копия: во все печатные издания РБ**

**Р**азговаривают двое мужчин:
- Я обожаю женские ножки! - А по мне, телячьи - гораздо лучше.
- Ты что, гурман?..
- Нет, я - зоофил.

**С**тук в дверь. На пороге молодой человек с саквояжем.
- Мыши, крысы, клопы есть?
- Нет.
- Нате! - кричит он и открывает саквояж.

**К**ухарка: - Барыня! Наша кошка съела бифштекс!
Барыня: - Ну?
Кухарка: - Прикажите его все-таки подать на стол или купить новый?

**И**дет по базару мужчина с белым медведем. Его спрашивают:
- Что ищешь, мужик?
- Да ищу того поганца, который мне хомячка продал.

**П**одходит Грицько до Петра:
- Прывіт, Петро!
Тот как замочит его в челюсть. Грицько поднимается:
- Петро, за що?
- А щоб знав.

- **П**апа, мама велела сказать, чтобы ты ходил сегодня в носках.
- Почему?
- Она потеряла четыре иголки и хочет, чтобы ты их нашел!

- **П**ослушайте, вы уже полчаса держите трубку и молчите. Разрешите мне позвонить.
- Не мешайте, пожалуйста, я разговариваю с женой.

- **Н**уте-с, в чем дело?
- Знаете, доктор, я вижу только движущиеся предметы.
- ??! А как же вы сюда дошли?
- А я головой мотал...

- **П**ять лет назад мы с мужем впервые отдыхали отдельно друг от друга.
- Ну и как? Мужу понравилось?
- Не знаю, он еще не вернулся.

- **К**ажется, вы у меня уже были?
- Спрашивает врач пациента.
- Напомните-ка вашу фамилию...
- Семенов.
- Плеврит?
- Нет, Николай.

**Р**азгневанный муж врывается в дом...
-Так! Я все знаю!
Жена мгновенно реагирует:
-Ах все? Тогда скажи, сколько притоков у Дуная?

- **М**ожет быть, обвиняемый назвал вас ослом в приступе внезапного гнева?
- О, нет! Перед этим он долго и внимательно разглядывал меня.

**Д**ама входит в оружейный магазин и просит показать ей хороший пистолет.
- Вам для защиты, мадам?
- Нет, для защиты я найму адвоката.

**О**дна медсестра, указывая на больного, спрашивает у другой:
- Это тот боксер, которого сбил мотоциклист?
- Нет, это тот мотоциклист!

**Л**ежит мужчина в грязи, мимо женщина проходит. Мужчина ей и говорит:
- Сама - свинья!
- Я вам ничего не говорила?!
- Зато подумала!

- **Д**октор! У меня душевная депрессия.
- Лучшее средство от депрессии - это с головой окунуться в работу.
- Да, но я замешиваю бетон.

- **Э**то милиция? Помогите! К нам забрался кот!
- Из-за какого-то кота столько крика? - удивился дежурный. - А кто говорит?
- Попугай.

**П**арень с девушкой сидят на лавочке.
Она: - О чем ты думаешь?
Он: - О том же, что и ты.
Она: - Только попробуй, я сейчас же закричу!

АНЕКДОТЫ

**С**тарый хирург ругает молодого после очередной самостоятельной операции:
- Кто тебя учил ТАК делать разрез?! Ты же все столы исцарапал!

- **А**лло! Это квартира Ивановых?
- Нет. Это автобаза.
- А у вас чего, с Ивановыми один номер?
- Нет...
- Тогда чего же трубку берете?

**В**стречаются два старых еврея. Один другого спрашивает:
- Вы слышали, таки Рабинович умер?
- Как умер?
- Как поц! Стоял, стоял и упал.

**П**риходит мужик к врачу, а на ноге повязка.
Врач: - Что болит?
Мужик: - Голова!
Врач: - А почему повязка на ноге?
Мужик: - Сползла.

**А**птекарь покупателю:
- Нет, нет, сэр. Чтобы купить мышьяк, нужен рецепт с печатью. Одной фотографии вашей тещи, к сожалению, недостаточно.



## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________________

Текст объявления: ____________________

**Вырезать, заполнить,послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 11.**